# Мастоўскі Веснік

Не народ для ўлады,
а ўлада для народа.

Незалежнае выданне | №13(57) | 30 чэрвеня 2000 года


## БСДП (НГ) правяла чарговы з"езд.

3-4 чэрвеня бягучага года адбыўся ІУ з"езд Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі (Народная Грамада). Нягледзячы на цяжкасці з памяшканнем для правядзення з"езду, якія чынілі ўлады, з"езд адбыўся. Са 144 абраных на з"езд прысутнічала 136 дэлегатаў. Адбыліся перавыбары кіраўніцтва партыі.Старшынёй БСДП зноў абраны Мікалай Статкевіч. Алесь Арыстовіч абраны першым намеснікам старшыні, намеснікамі—Аляксей Кароль, Уладзімір Нісцюк, Ніна Стужынская. У адпаведнасці са Статутам Цэнтральны Камітэт фармуецца наступным чынам: старшыня БСДП, першы намеснік і намеснікі старшыні БСДП, старшыні абласных, Мінскай гарадской арганізацыі, старшыні гарадскіх, раённых і рэгіянальных арганізацый, а таксама сябры партыі, што абраны на з"ездзе. На з"ездзе прынята новая рэдакцыя Статута, а таксама шэраг рэзалюцый.

4 чэрвеня адбылося першае паседжанне новага складу Цэнтральнага Камітэта, дзе выраша́ліся кадравыя пытанні: абрана Выканаўчае Бюро, галоўны рэдактар цэнтральнага друкаванага органа і кіраўнік спраў. Выканаўчае бюро абрана ў наступным складзе: Арыстовіч Алесь, Ганчарык Міхась, Грыб Мечаслаў, Гурыновіч Анатоль, Дзейка Леанід, Кароль Аляксей, Леўшуноў Сяргей, Ляўковіч Анатоль,Малашка Віталь,Нісцюк Уладзімір, Палубятка Іосіф, Сідарэвіч Анатоль, Статкевіч Мікалай, Стужынская Ніна, Шыдлоўская Ніна. Галоўны рэдактар друкаванага органа -- Анатоль Сідарэвіч. Кіраўнік спраў — Ніна Шыдлоўская.

# ТУТЭЙШАЯ ХРОНІКА

## Няма хлеба, не будзе і здобы.

Пэўны час таму назад у мястэчку Лунна працавала пякарня, якая забяспечвала хлебам усе мясцовыя сельскія крамы, а іншы раз пастаўляла яго ў райцэнтр. Ды якасць яго была значна лепшая, чым у Мастах. Неўзабаве кіраўніцтва раённай кааперацыі вырашыла, што пячы хлеб у Лунна не мэтазгодна, а лепш дастаўляць яго з горада. У мястэчку застаўся працаваць толькі кандытарскі цэх. Зараз яго невялічкі калектыў знаходзіцца ў чарговым адпачынку, але ходзяць чуткі, што той адпачынак будзе бестэрміновы: цэх зачыняецца. Толькі праблемы забяспячэння хлебапрадуктамі гэтага рэгіёна паўстаюць зараз. У сувязі з аварыяй на лініі электрасетак у Мастах болей дзесятка населеных пунктаў гэтага рэгіёна засталіся без хлеба.

**Дзед з Лунна**

## Трагедыя пасля Дня моладзі.

У той дзень усё выглядала прыстойна. Са сцэны зламанага "дажынкаўскага" млына афіцыйныя асобы з мясцовай улады распавядалі некалькі дзесяткам пенсіянераў пра свой штодзённы клопат аб моладзі, бо апошнія яшчэ спалі пасля ўсяначнога выпускнога балю. Адаспаўшыся, моладзь распачала святкаваць. Кожны на свой лад. Вынікам такой "весялухі" стала страшная трагедыя. На аўтатрасе Ваўкавыск-Лунна ля вёскі Тоўсцікі легкавы аўтамабіль, у якім знаходзіліся два мужчыны сярэдняга веку і дзве дзяўчыны, з"ехаў з шашы і перакуліўся. Усе пасажыры атрымалі раненні.На наступны дзень 16-я гадовая М. памерла. Жыццё астатніх ратуюць дактары. Аўтамашына рамонту не падлягае. У яе кузаў патрапіў камень, які не змаглі дастаць супрацоўнікі міліцыі ды так і адвезлі на аўтастаянку.

**Антон МАКЕЙ**

## Смяротнае паскарэнне

Згодна з статыстычнымі данымі ад пачатку года ў Мастоўскім раёне памерла 209 чалавек, нарадзілася толькі 84, што амаль як у тры разы меней. Год назад гэтая лічба рознілася толькі ў паўтары разы. Асабліва шмат людзей памерла на вёсцы, адпаведна і мала нараджаецца. Сёлета гэтыя лічбы такія: 145 памерла, 47 нарадзілася, прычым нарадзілася больш чым у горадзе — 37 дзяцей.

***Ул. інф.***

## Незайздросная спадчына

Пасля ліквідацыі калгаса "Зара" паміж саўгасам "Мастоўскі" і калгасам "Ленінец" былі падзелены палі, сенажаці, гаспадарчыя пабудовы, тэхніка і жывёла. Па праўдзе,кажучы дзяліць не было чаго. Саўгасу "Мастоўскаму", прыкладам, дасталося толькі некалькі соцен кароў, пяць коней ды пару трактараў.

**Ул. інф.**

*"Товариш" славіць мастоўскіх таварышаў.*

## Вадзяныя надоі

Зусім недаўна пабываў у мяне ў гасцях добра знаёмы. Пасядзелі, успомнілі мінулыя часы, абмяркавалі сённяшняе. Іван Сяргеевіч выказваўся аб "новым" часе вельмі крытычна.І свой расповяд падцвердзіў фактамі.

У яго словах адчуваецца шмат болі за саўгас, дзе ён працуе, за простых людзей. І аб махінатарах-кіраўніках кажа з пэўнай доляй нянавісці. Дапяклі.

Прозвішча яго не стану называць, скажу толькі, што працуе на ферме саўгаса "Чарлёна"Мастоўскага раёна.

Расказаў мне, як у іх разбаўляецца малако простай вадой. Ды не адным літрам, а 8-10 слоікаў на 40 літраў. Падлічыце самі. Выходзіць толькі на адной ферме "упырскваюць" вадзічкі штодзённа каля 500 літраў. А каб разбаўленае малако прайшло першым і вышэйшым гатункам, штодзённа ў машыну, якую яго забірае, адгружаюць 2-3 мяшкі камбікорма—трэба ж падмазаць, дзе след.

У мяне, чалавека далёкага ад сельскай гаспадаркі,валасы на галаве дыбам усталі. Хіба можна так? Можа ты памыліўся?

—Не, не памыляюся,— упэўнена зазначыў Іван Сяргеевіч.—Прыязджай, сам пабачыш. У іх уся сувязь наладжана. Непрыдатных адразу выжываюць ці выганяюць, каб не заклалі. Астатнія маўчаць — жыць жа трэба.

Так і жывём.

**Аляксандр ПАЎЛАЎ**
**г.Гродна**

Перадрук з газеты "Товариш" №25 ад 23. 06. 2000 г.

## Жаць няма чаго, жаць няма чым.

У раёне веснавыя замаразкі знішчылі 60% пасеваў, але надзеі на тое, што астатак будзе зжаты своечасова,няма ніякай надзеі. Зараз паўстала пытанне тэхнікі. І справа не ў тым, што яна старая ды зношаная. Ні ў адной гаспадарцы раёна на сённяшні дзень не створаны запас ГСМ, а ў калгасах "Чырвоны партызан" няма нават на адзін дзень працы камбайнаў. У гэтым калгасе таксама няма акумулятараў на ўсе камбайны. Іншыя сельгасгаспадаркі раёна, што накіравалі свае камбайны ў мясцовую райаграпрамтэхніку, усё яшчэ спадзяюцца, што гэтая арганізацыя яе адрамантуе, другія распачалі рамонт самі ды сталі на запчасткі разбіраць больш зношаную тэхніку.

**А.С.**

## *Хворыя ад нараджэння*

Тое, што зараз дзеці нараджаюцца хворымі ні для каго не сакрэт, але тая лічба, якая была названа ў радзільным аддзяленні Мастоўскага ТМА, вымушае задумацца: толькі 10% ад народжаных немаўлят абсалютна здаровыя.

## Асноўны занятак — п`янства.

У Мастоўскай інспекцыі па справах непаўналетніх на ўліку зараз стаіць 74 падлеткі. 68% з іх трапілі на ўлік за п"янства, астатнія за крадзяжы і хуліганства. Згодна са словамі сакратара каміміі па справах непаўналетніх пры райвыканкаме Алены Опалевай, палова з іх дзеці з прыстойных сем"яў, бацькі якіх займаюцца бізнесам.

**Ул. інф.**

## Пракуратура наводзіць парадак...

***... і пазбаўляе ільготнага крэдытавання тых, хто не мае на гэта права.***

Па прадстаўленай Мастоўскай пракуратурай у райвыканкам інфармацыі яго рашэннем пяць чалавек былі выключаны са спісаў на ільготнае крэдытаванне, у тым ліку чатыры — наогул выключаны са спісаў членаў жыллёва-будаўнічага кааператыва. Прычына адна: выяўлены грубыя парушэнні жыллёвага заканадаўства.

Відаць, юрысты райвыканкама недастаткова ведаюць закон, калі адбываецца такое.

**Ул. інф.**

## Абыдуцца без стэрыалізацыі.

Так палічыла кіраўніцтва Мастоўскай ТМА адносна стэарылізацыі медыцынскага інструмента на ФАПе ў вёсцы Правыя Масты і выказала жаданне прадаць будынак, дзе знаходзіцца апарат для стэрыалізацыі, прыватнай асобе. Будучы гаспадар ужо распачаў выказваць пагрозы ў адрас урача сельскай медыцынскай установы, каб той не прадпрымаў захадаў дзеля аднаўлення справядлівасці.

**А.С.**

## Да ўвагі чытачоў.

Рэдакцыя "МВ" просіць выбачэння за затрымку выхада чарговых нумароў, хоць здарылася тое выключна па тэхнічных прычынах не залежных ад рэдак-цыі. Паколькі чарговыя нумары падрыхтаваны, а тыя навіны, што можна прачытаць на старонках нашага выдання не змяшчае афіцыйны друк, было вырашана надрукаваць гэтыя нумары хоць з некаторым спазненнем.

У хуткім часе чытач іх атрымае.

## ХТО ЁСЦЬ ХТО

# Жыццё за вялікім плотам

### *Вы чулі, як пяюць дразды?*

Насельнікі вядомай свету пасля скандалу з замежнымі пасламі рэзідэнцыі"Дразды"чуюць зусім не гэтых птушак. Дзесьці побач месціцца мясцовая птушкафабрыка, што нагадвае сельскую ідылію. Але жыць у гэтай лясістай мясцовасці непадалёку ад сталіцы зручна і прыемна. Пасля рэканструкцыі там з"явілася акуратная прасторная сауна. 25-мятровы закрыты басейн, трэнажоная зала з сучасным спартыўным абсталяваннем. Гэтай базай могуць карыстацца ўсе жадаючыя, уключаючы самага галоўнага жыльца.

Яго апартаменты знаходзяцца за другім унутраным кальцом. Унутраны плот існаваў і раней, аднак пасля рэканструкцыі стаў суперсакрэтнай і закрытай зонай. Ніякіх здымак, фота і відэакамер не павінна быць. Тэрыторыю пільна пагляда-юць і адразу фіксуюць кожнага цікаўнага. Супрацоўнікі прэзідэнскай службы аховы дзяжураць і ўнутры памяшкання, дзе вечарам пасля працоўнага дня з"яўляецца абаронца славянскага адзінства. Асабіста неяк летам давялося чакаць, калі праляціць па трасе ягоны браніраваны "Мерседэс". Усе дарогі на такі момант перакрываюцца даішнікамі спецпадраздзялення "Страла".

Жыве прэзідэнт у драўляным двухпавярховым доме. На першым паверсе— сталовая, гасцінная, кухня. На другім— службовы кабінет, жылыя пакоі, спальні. Пакояў — сем-дзесяць — так ацэньвалі жылплошчу Лукашэнкі інфарматары. Унізе на цокальным паверсе ягоная сауна. Інтэр"ер пакояў выкананы ў еўрапейскім стылі— светлыя сцены, няшмат мэблі, зялёныя расліны.

### *Есці пададзена!*

Прыкладна так прэзідэнта і ягоных гасцей запрашаюць да абедзеннага стала дзве афіцыянткі, якія і быццам пакаёўкі. Вараць стравы першай асобе два повары-жанчыны перадпенсійнага ўзросту. Першымі ежу па інструкцыі абавязкова дэгустуюць вызначаныя супрацоўнікі аховы.

Расказваюць, што ў ежы беларускі лідар непераборлівы і аддае перавагу малочным стравам—супам, сырнікам, блінам, а таксама смятане, ёгурту, тварагу. Яшчэ вельмі любіць есць смажаную рыбу і драныя бліны, а вось наконт чорнай ікры ў прыхільнасцях не быў заўважаны. Харчуецца і нават ездзіць з Мінска ў Дразды абедаць пастаянна ў сваёй рэзідэнцыі.Толькі калі шмат спраў, яму прыносяць абед са сталовай адміністрацыі. Меркаванне аб ім, як аб ворагу гарэлкі, не адпавядае рэчаіснасці. Нядаўна ў полі пад Прохараўкай Лукашэнка нават гарэзліва заявіў перад тэлекамерамі ГРТ, што закусвае ён толькі пасля трэцяй чаркі. Звычайна пасля штодзённых трэніровак любіць выпіць халоднага беларускага піва. Не адмаўляецца ў кампаніі рэдкіх сваіх сяброў ад чаркі-другой класнай айчыннай гарэлкі "Усяслаў Чарадзей". Сярод каньякоў акрамя нашага "Карсар" у павазе армянскія не аднаго года вытрымкі. Віны звычайна чырвоныя, малдаўскія.

### *Касцюмчык ладненька прыгнаны.*

Тыя людзі, што неяк сустракалі Лукашэнка, добра прыкмецілі, што апранаецца ён з іголачкі. Адышло ў нябыт, як яму, тады бясстрашнаму барацьбіту з карупцыянерамі ўсіх масцей, парвалі міліцыянеры ў калідоры Саўміна адзіны светлы лепшы касцюм. Зараз у прэзідэнта гардэроб у дзесятак шыкоўных нарадаў, пашытых ва ўрадавым спецатэлье. Некалькі касцюмаў набыта ў Францыі. Калі дазваляе пратакол, Аляксандр Рыгоравіч з задавальненнем апранаецца ў спартыўны касцюмы, швэдры, красоўкі і нават у шорты. Толькі мала такой вольнай будзёнасці. Ягонае хоббі мець розныя гальштукі, якія з задавальненнем даюць у падарунак блізкія людзі і сябры. Толькі спачатку яму раілі, што апранаць на той ці іншы момант, супрацоўнікі службы пратакола. Цяпер сам у гэтым разбіраецца.

### *Спорт — асноўная любоў.*

Пра гэтае ягонае захапленне ходзяць легенды і пішуць тоўстыя часопісы. Дзе яшчэ ёсць у свеце кіраўнік, які ўстае з пасцелі ў шэсць гадзін раніцы і пачынае працоўны дзень з 10-12 кіламетровай прабежкі на ролікавых лыжах. У дрэннае надвор"е каля гадзіны плавае ў басейне. Але гэта яшчэ не ўсё. Перш тройчы на тыдзень па некалькі гадзін гуляў у вялікі тэніс. Апошнім часам толькі хакей. Панядзелак, чацвер, субота—па дзве гадзіны ганяе шайбу ў доспехах вагой каля 15 кілаграмаў без усялякай аддухі з перапынкам на 15 хвілін.Побач пыхцяць ад такой радасці саратнікі. Такіх нагрузак не бачыў у сваім жыцці нават славуты Павел Бурэ .А нашаму правадыру хоць бы што. Заўважу, што яшчэ такое з інстытута засталося. Там у інтарнаце ён таксама ўставаў рана і бегаў кросы 5 км. А яшчэ гуляў у футбол,ручны мяч. І нават, узгадваюць аднакурснікі, бароўся.Вось бы калі з самім Пуціным сысціся на барцоўскім дыване. З-за болей зараз перастаў гуляць у футбол, сочыць за важнейшымі матчамі па тэлебачанні. Вось толькі наша зборнае прайграе мініяцюрнай Андоры. Хацелася б,а,пэўна, прыйдзецца адкласці паездку на летнюю Алімпіяду. Ведае,што тамтэйшыя беларусы сустрэнуць невятліва ды зноў будзе крытыкаваць за вяяж "нячэсная" прэса, як гэта здарылася пасля Нагана.

### *Шчаслівы ці ён?*

Познім вечарам любіць чытаць газеты, глядзець тэленавіны. Яшчэ неабходна праглядзець шэраг дакументаў. І вось нарэшце гэты пастарэўшы і ўжо сівы з лысінай чалавек застаецца адзін на адзін з сабой. Думкі розныя лезуць у галаву. Не мае душа спакою. Разважае, ці так усё зрабіў? Ці добра жывецца з такімі пачуццямі нават на вяршыне абсалютнай улады? У кожнага з вас, напэўна, ёсць адказ на вечнае пытанне жыцця.

Падрыхтаваў
**Уладзімір ШЫК**
**г. Паставы**

*Пра нашых землякоў*

## Граф, мужык яшчэ што трэба, хоць і дзед.

Шмат хто дзіўнымназываў вяселле, якое адбылося ў мінулым годзе 22 кастрычніка ў Траецкім прадмесце горада Мінска. 60-гадовы ураджэнец вёскі Рагозніца Мастоўскага, які доўгі час пражыў у Канадзе, граф Аляксандр Прушынскі і 30-гадовая мінчанка Таццяна Пальчэўская пабраліся шлюбам. Скептыкі ды хцівыя зайздроснікі ўспаміналі, што ў маладога гэта не першае вяселле, і над вясельным касцюмам жаніха не забываліся таксама пасмеяцца...

А смяяліся дарэмна—нядаўна ў гэтай сям"і нарадзіўся сын.

Ай да граф! Ай да малайчына!

Нам толькі застаецца павіншаваць былога земляка з наследнікам, які дарэчы, не забывае сваю бацькаўшчыну ды ў 1994 годзе мкнуўся стаць нават кандыдатам у прэзідэнты на першых у Беларусі прэзідэнскіх выбарах.

## На гары Купала гарэла...

**"Хто не ходзіць на Купалле — бадай таго закапалі". А чаго туды ходзяць? — пытаецеся. А калі ўжо ісці, то калі і куды?**

**Даўнейшыя людзі, канешне, ведалі гэта ўсё лепш за нас, бо, жывучы бліжэй да прыроды, лепей адчувалі яе законы, чым мы. Для іх гэта было не проста ігрышча, а адзін з найважнейшых абрадаў, ад якога залежаў ураджай, дабрабыт, працяг роду. Гэты абрад быў часткай адзінай сістэмы веравванняў індаеўрапейскіх народаў.**

Купалле адзначаецца ў самую кароткую ноч года. Даўней дату Купалля, як і іншых святаў, вызначалі крывы (паганскія жрацы) з дапамогаю спецыяльных "абсерваторыяў", складзеных з камянёў. Дата свята зрушвалася і ў залежнасці ад квадраў Месяца. У старажытнасці існаваў 72-гадовы цыкл, у кожны з гадоў мянялася і форма правядзення Купалля.Увогуле,Купалле прыходзіцца на сярэдзіну перыяду ад пачатку русальнага тыдня да Пятра.

У розных месцах Беларусі Купалле праходзіла па-рознаму, у залежнасці ад мясцовых умоў. Не ўсюды аднолькава захаваліся мясцовыя традыцыі. Найбольш звестак мы маем з Паўночнай Беларусі, дзе ў старажытнасці знаходзіўся паганскі сакральны цэнтр.

Лепш за ўсё, калі ёсць распарадчыкі — Купаліш і Купалка, людзі, якія ведаюць, як і што рабіць. Найперш трэба пазначыць месца правядзення асноўнай часткі свята. Пры ўваходзе і выхадзе з гэтай прасторы выконваюцца пэўныя рытуальныя дзеянні. Распальваецца агонь(трэннем дрэва аб дрэва). На агні спальваюцца старыя рэчы, прынесеныя з дому, а таксама "май" — маладыя дрэўцы, якімі на Сёмуху упрыгожвалі хаты. На жэрдцы ўздымаецца запаленае кола—сімвал Сонца (драўлянае, не гумавае). Гатуецца вячэра, пасля яе пачынаюцца гульні:скаканне цераз агонь, пусканне па вадзе вянкоў, рытуальнае купанне, качанне па расе, карагоды, шлюбныя гульні, якія раней былі рэальнымі шлюбамі. Нездарма з"явілася павер"е, што дзяцей прыносіць бусел, бо буслы прылятаюць з выраю якраз праз дзевяць месяцаў пасля Купалля.Цераз агонь скакалі парамі, якія падбіраліся перад Купаллем, а жанатыя і ўдовыя не маглі скакаць цераз агонь.

Дзень перад Купаллем — найлепшы для збору лекавых траў. У купальскую ноч—самы разгул звышнатуральных сілаў. Гэта ноч кахання і цудаў.На папараць сыходзіць Перуноў агонь, яна зацвітае на некалькі імгненняў, і трэба паспець яе ўхапіць.Знайсці папараць-кветку цяжка, але тут вам можа памагчы Купальскі Дзядок. Чалавеку тады даюцца незвычайныя здольнасці, ён можа бачыць скарбы, захаваны ў зямлю.

Купальскія спевы— свайго роду паганскія малітвы —маюць тыповы старажытны напеў, яны вясёлыя па змесце і сумныя па мелодыі.

**Сцяпан ТУЛОЎСКІ**

## Мастаўчане жартуюць

Пацярпеў аварыю беларускі самалёт. Пасажыры і экіпаж трапілі да людаедаў. Старэйшы беларускай групы звяртаецца да людаедаў:

— У вас цэны кожны тыдзень павышаюцца?

— Не.

--Падаткамі абкладваюць?

— Не.

— Гарачую ваду ў доме адключаюць?

— Не.

— Дык ад чаго вы так азвярэлі?

Сядзяць тры вераб"я на Эйфелевай вежы ў Парыжы. Адзін кажа:

— Адкуль вы, мужыкі?

Другі:

— Я з Амерыкі. Там паветра бруднае ад машын, проста дыхаць няма чым.

Трэці:

— Я з Паўночнай Карэі. Там рыс кончыўся, вераб"ёў есці пачалі.

Першы ім і кажа:

— А ў нас усё добра. Машын мала, заводы стаяць, паветра чыстае, зерня колькі хочаш на дарогах валяецца, дый вераб"ёў ніхто не есць.

— Дык чаго ты прыляцеў сюды?

— На свабодзе, мужыкі, пачырыкаць захацелася.

Амерыканцы спыталі беларускае радыё:

— Колькі атрымлівае настаўнік на Беларусі?

Беларускае радыё закашлялася і адказала:

— А ў вас неграў лінчуюць.

Заснавальнік і рэдактар Язэп Палубятка

Адрас для допісаў: 231600 г. Масты-2 Палубятку І. І. да запатрабавання, тэл. 2-16-90

Аўтары цалкам адказныя за праўдзівасць і дакладнасць дасланай інфармацыі

Наклад 299 асобнікаў. Фармат А-4

Дабрачынна надрукавана Гарадзенскім абласным аб'яднаннем "Ратуша" пры падтрымцы фонда "Альянс Каунтэрпарт" , Камісіі па Дэмакратыі Амбасады ЗША на Беларусі і Нацыянальнага Фонду на карысць дэмакратыі (ЗША).